наша

# свабода

№24 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 ТРАЎНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Парад группы президентов из СНГ

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Лидеры стран-участниц Таможенного союза и Договора о коллективной безопасности решили выяснить отношения в Минске.**

В понедельник сюда приезжает президент Казахстана Нурсултан Назарбаев, а во вторник – президенты России, Таджикистана, Кыргызстана и Армении.

Политики разных рангов и разных стран неоднократно заявляли, что Таможенный союз, куда сейчас будет окончательно принят Таджикистан, существует лишь на бумаге. Когда-то его основатели продекларировали, что, создавая единое торгово-экономическое пространство, они вместе шагнут и в мировое — вступив во Всемирную торговую организацию. Однако после самостоятельного вступления в ВТО Кыргызстана стало очевидно, что дружно шагнуть сотоварищам не суждено. Без лишнего шума Россия стала самостоятельно вести переговоры с ВТО. А реализация идеи создания зоны свободной торговли так и остается мечтой для ее инициаторов. Против выступает Россия, для которой такая зона с коллегами по Таможенному союзу невыгодна. Несмотря на это, президенты остальных стран-участниц этого союза, по некоторым данным, намерены проявить настойчивость и добиться появления хоть каких-либо элементов зоны, похожей на зону свободной торговли.


Фота Ул.ШЛАПАКА

В более выгодном положении неожиданно оказался накануне саммита председатель Таможенного союза Нурсултан Назарбаев. Недавно он сменил своего белорусского коллегу в мировой десятке врагов прессы и, казалось бы, должен пребывать из-за этого в некотором напряжении. Тем не менее, у Нурсултана Абишевича есть основания быть в приподнятом настроении.

По сообщениям американской прессы, консорциум западных нефтяных компаний обнаружил крупное месторождение на Каспии у берегов Казахстана. Оно может оказаться самым богатым в мире из всех открытых за последние 20 лет. Этот факт может стать козырем у Назарбаева в игре национальных интересов. Как известно, за счет нефтяного сектора президент Казахстана пытается строить экономику, которая бы меньше зависела от России.

Что касается хозяйки саммита — Беларуси, не имеющей таких природных возможностей, то она с Россией, единственной участницей Таможенного союза, с которой Беларусь имеет пусть таможенную, но границу, пытается козырять геостратегическими интересами, своей ролью форпоста на западных рубежах Содружества. Правда, роль эта порою приобретает какую-то двусмысленность. До сих пор никто из официальных лиц ни в Москве, ни в Минске так и не разъяснил, почему вдруг российский премьер, во время переговоров с белорусским, потребовал жесткого контроля за перемещением военной техники. Надо полагать, не по российской территории. Говорят, что не только появление на территории России иномарок автомобилей, но и других видов продукции разного назначения, послужило причиной постановления В.Путина о восстановлении таможенного контроля с Беларусью.

Именно среди лидеров России, Казахстана и Беларуси некоторые наблюдатели ожидают выяснения отношений. Вероятно, их результаты проявятся чуть позже, после минского саммита. Правда, Россия уже не ельцинская, и ее новый президент вряд ли допустит базар, который в свое время разразился на саммите в Кишиневе. Тогда уж очень сильно, как выяснилось позже, критиковали и даже ругали Б.Ельцина. Сейчас же, вполне вероятно, что именно в Минске В. Путин в популярной и доходчивой форме, как это он умеет делать, разъяснит своим собеседникам азы новой политики России, направленной на усиление своего влияния на постсоветском пространстве. Со всеми округами и округами.

А что касается вопросов коллективной безопасности, в обсуждении которых еще фигурирует Армения, то российский военный потенциал остается единственным гарантом Ташкентского Договора о коллективной безопасности, из которого, правда, уже успели сбежать Узбекистан, Азербайджан и Грузия. Последняя обиделась за Абхазию и роль в поддержании тамошнего режима российскими войсками. Кстати, Беларусь выступает против введения санкций в отношении абхазских сепаратистов, полагая, что от санкций будет страдать народ. Оставшиеся Таджикистан, Киргизия, которая с трудом и несамостоятельно противостояла вторжению отряда исламистов, без российских солдат нескоро станут способными обеспечить свою безопасность. ▶

*Окончание на стр.3*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **У чарговы раз падвысіліся тарыфы на паслугі сувязі.** Адразу на 50% падаражэла пагадзінная аплата тэлефонных размоваў, а за паслугі тэлеграфнай сувязі прыйдзецца плаціць на 20% больш. Цяпер 1 хвіліна гарадской ці вясковай размовы будзе каштаваць 1,5 рубля, міжгародняй размовы ў межах вобласці — 4,1 р., а ў межах краіны – 8,2 р. Тэлефонная картка на 120 хвілінаў прадаецца цяпер за 665 рублёў. Падаражэла і міжнародная тэлефонная сувязь. Адна хвіліна размовы з краінамі Балтыі і Польшчы складае 290 руб., з Малдовай – 294 руб.

■ **Зацверджаны новыя аптовыя і рознічныя цэны на нафтапрадукты канцэрна «Белнафтахім».** Цэны на аўтабензін А-76 і дызельнае паліва падвышаныя ў сярэднім на 12%. Цяпер на аўтазапраўцы «Белнафтахіма» літр бензіну А-76 каштуе 245 рублёў, дызельнага паліва – 233 рублі. Разам з тым цэны на аўтабензіны АІ-92 і АІ-95 не падвышаюцца. Па-ранейшаму адзін літр АІ-92 каштуе 352 рублі, АІ-95 - 415 рублёў.

■ **Брэсцкі аблвыканкам увёў на тэрыторыі вобласці пажаранебяспечны рэжым, які забараняе наведванне лясоў насельніцтвам і правядзенне работ на тарфяных масівах.** Такое рашэнне было прынятае ў сувязі з сухім надвор'ем і павелічэннем колькасці пажараў. Штодзённа ў вобласці рэгіструюцца 30 і болей пажараў. Толькі на мінулым тыдні супрацоўнікі абласнога ўпраўлення міністэрства па надзвычайных сітуацыях выязджалі на тушэнне пажараў 294 разы. У агні гінуць не толькі лясы, дамы, тэхніка, гаспадарчыя пабудовы, але і людзі. Брэсцкі аблвыканкам запатрабаваў ад супрацоўнікаў упраўленняў МНС, МУС, лясной аховы і экалогіі зрабіць больш жорсткім спагнанне з грамадзянаў за невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. У сціслыя тэрміны павінен быць адноўлены недатыкальны запас паліва. Да аналагічных захадаў давялося звярнуцца і ў некаторых раёнах Магілёўскай вобласці. З 12 траўня дзейнічае і распараджэнне Магілёўскага аблвыканкама аб абмежаванні доступу насельніцтва ў лясы.

## «Намаганні не ў тым накірунку»

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Дэніел Спекхард выказаў сваё стаўленне да заявы Аляксандра Лукашэнкі аб стварэнні 300-тысячнай беларуска-расійскай ваеннай групоўкі.

Выступаючы 16 траўня на сустрэчы са студэнтамі факультэта міжнародных зносінаў БДУ ў Мінску, пасол сказаў: «Проста абвясціць пра такую лічбу публічна, без якогасьці кантэксту — гэта значыць правакаваць Захад адказаць у тым жа духу».

На думку пасла, пагроза бяспецы Беларусі выходзіць не ад NATO, а ад праблемаў, «звязаных са стабільнасцю ўнутры Беларусі», а таксама ад «праблемаў транснацыянальнага характару» — пранікнення злачыннасці, тэрарызму, наркотыкаў. Намаганні, скіраваныя на стварэнне 300-тысячнай групоўкі, «гатовай у любы момант абрынуцца на NATO», — гэта, як лічыць Д.Спекхард, «намаганні, скіраваныя не ў тым накірунку».

Амерыканскі пасол выказаў таксама сваю заклапочанасць тым, што многія ў Кангрэсе ЗША, і не толькі там, пачынаюць казаць: «Мы ведалі, што беларуска-расійскае аб'яднанне — мілітарысцкае па сваёй сутнасці». «Мяне таксама хвалюе, што Беларусь можа стаць пешкай у гэтай гульні», — сказаў Д.Спекхард. Паводле ягоных словаў, можа здарыцца так, што «Беларусь прыме нейкія рашэнні на падставе не сваіх уласных інтарэсаў, а ў інтарэсах Расіі». ■

## Сіднэй-2000: хочам 15 медалёў

Дзмітрый УЛАСАЎ

На XXVII летніх Алімпійскіх гульнях у Сіднэі (Аўстралія) Беларусь можа разлічваць на «бесправальнае выступленне» і заваяваць не менш чым 15 медалёў, у тым ліку 2-3 залатыя. Такую заяву зрабіў міністр спорту і турызму Яўген Ворсін, выступаючы на пасяджэнні выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта, якое праходзіла пад старшынствам А.Лукашэнкі. На ім абмяркоўваліся склад беларускай дэлегацыі на Алімпіядзе і пытанні медыцынскага забеспячэння зборнай.

Паводле словаў міністра, атрымаць медалі або алімпійскія ачкі (г. зн. увайсці ў васьмёрку наймацнейшых) плануецца ў лёгкай атлетыцы, барацьбе, кулявой стральбе, плаванні, настольным тэнісе, акадэмічным веславанні, веславанні на байдарках.

Канчатковы склад дэлегацыі будзе зацверджаны да 25 жніўня, аднак ужо ёсць папярэдні спіс, куды ўнесена 131 прозвішча. А.Лукашэнка прапанаваў апублікаваць гэты спіс у газетах «Прессбол» і «Спортивная панорама», каб «народ ведаў, на што трацца яговыя грошы».

Як запэўніў галоўны ўрач беларускай дэлегацыі Я.Ласіцкі, спартсмены ў медыцынскім плане будуць забяспечаныя ўсім неабходным. Урачы дапамогуць ім, у прыватнасці, хутчэй адналасці пасля 24-гадзіннага пералёту, лепш адаптавацца да іншага гадзіннага пояса (розніца ў часе паміж Мінскам і Сіднэем — 9 гадзінаў). ■

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 960**

## Машына Далгалёва забіла настаўніцу

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

Пракуратура Брэсцкага раёна ўзбудзіла крымінальную справу па факце дарожна-транспартнага здарэння, удзельнікам якога стаў кіроўца службовага аўтамабіля старшыні Брэсцкага аблвыканкама Васіля Далгалёва.

Паводле інфармацыі, атрыманай карэспандэнтам ва ўпраўленні ўнутраных справаў Брэсцкага аблвыканкама, ДТЗ адбылося 8 траўня ў 23.30 на аўтадарозе Брэст — Мінск у раёне вёскі Тэльмы. На вялікай хуткасці аўтамабіль *Volvo S90* збіў 33-гадовую Ірыну Панасюк — настаўніцу сярэдняй школы № 2 горада Жабінкі, якая ішла па абочыне. Ад атрыманых траўмаў жанчына памерла на месцы. Дачка-пяцікласніца засталася круглай сіратой, бо сёлета памёр і яе бацька.

У кабіне аўтамабіля знаходзіўся старшыня Брэсцкага аблвыканкама Васіль Далгалёў, таму на месца здарэння выехаў асабіста начальнік ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Надзеін. Цяпер праваахоўныя органы праводзяць расследаванне, высвятляючы, хто з удзельнікаў ДТЗ — вадзіцель ці жанчына-пешаход — быў вінаваты ў здарэнні. Камеціраваць жа яго кіраўніцтва ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама адмаўляецца. ■

## Беларускае тэлебачанне чакае суд

**Кірыла ПАЗНЯК**

31 траўня ў судзе Першамайскага раёна Мінска будзе разглядацца іск тэлежурналіста Яраслава Бяклемішава да Белтэлерадыёкампаніі. Былы вядучы праграмы «Крок-2» лічыць, што быў звольнены з працы незаконна.

Загадная фармулёўка аб пазбаўленні журналіста сваёй пасады гучыць наступным чынам: «звольнены за грубае парушэнне парадку падрыхтоўкі і выдачы тэлепраграмы ў эфір, якое выявілася ў неадпаведнасці эфірнага матэрыялу «Кроку-2» 9.03.2000 змесціву мікрафоннай папкі». Гэта значыць, што на экране з'явілася тое, што загадзя не планавалася, — у перадачы нечакана з'явіўся апальны рэжысёр Юрый Хашчавацкі, аўтар фільма «Звычайны прэзідэнт». Гэта выклікала незадавальненне кіраўніцтва БТ, хоць у «мікрафоннай папцы» ў пераліку тых, хто павінен быў браць удзел у праграме, было напісана «і іншыя». Менавіта сярод «іншых» і з'явіўся Ю.Хашчавацкі, прычым анічога крамольнага ён не гаварыў, а толькі пра кіно і творчасць.

Кіраўніцтва БТ і дагэтуль не задавальняла, што ў «Кроку-2» з'яўляліся «непажаданыя» тэмы і асобы. Выпадак з запрашэннем у студыю Ю.Хашчавацкага, відаць, стаў апошняй кропляй.

Дарэчы, цяпер «Кроку-2» няма: пасля звальнення калегі перадачу скасаваў другі яе вядучы Віталь Сямашка, бо працаваць далей пад цэнзурным наглядам не захацеў.

Што да іску, то Я.Бяклемішаў патрабуе аднаўлення на працы, а таксама хоча спагнаць з БТ тую суму, якую ён мог бы зарабіць за час вымушанага беспрацоўя. Адвакаты з Беларускай асацыяцыі журналістаў мяркуюць, што шанцы перамагчы ў тэлежурналіста ёсць. Паводле іхніх словаў, пры звальненні Я.Бяклемішава адміністрацыя БТ парушыла ўсё, што толькі можна было парушыць у Працоўным кодэксе. ■

## Надзвычайныя сродкі

**Аляксей АРЭШКА**

Міністэрства фінансаў Беларусі выдаткуе ў траўні аблвыканкамам 182,5 мільёна рублёў. Сродкі прызначаныя для завяршэння працаў па аднаўленні жылых дамоў і іншых аб'ектаў, пашкоджаных летась у выніку надзвычайных сітуацыяў. Грошы выдзяляюцца з фонду стыхійных бедстваў, аварыяў і катастрофаў. Найбольшая сума накіроўваецца Мінскаму (86 мільёнаў) і Гродзенскаму (35 мільёнаў) аблвыканкамам.

Мінфін таксама выдаткуе Нацыянальнаму парку «Прыпяцкі» 11 мільёнаў рублёў на пакрыццё расходаў, панесеных ім пры ліквідацыі наступстваў паводкі 1999 года. 5,5 мільёна рублёў атрымае міністэрства па надзвычайных сітуацыях. ■

**ФОТАФАКТ**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Неабвержнае сведчанне, што нарэшце прыйшло цяпло

## Прэса пад дзяржаўным прэсам

**Рыгор БУЯН**

Дзяржаўныя мас-медыя кантралююць не менш за 80% беларускага рынку сродкаў масавай інфармацыі. Да такой высновы прыйшла Кансультатыўна-наглядальная група АБСЕ, прааналізаваўшы сітуацыю ў беларускай прэсе за мінулы год. Той факт, што большасць з 739 зарэгістраваных газет з'яўляюцца прыватнымі, паказчыкам свабоды слова быць не можа: тыраж прэзідэнцкай «Советской Белоруссии»(331.000 экземпляраў) перавышае агульны наклад 15 асноўных недзяржаўных газет. І сярод іх няма незалежнага выдання нацыянальнага маштабу, даступнага ўсім. 250% інфляцыі ў год і пагаршэнне эканамічнай сітуацыі вымушаюць выдаўцоў зніжаць наклады альбо трымаць іх на ранейшым узроўні. Карацей, ад эканамічнага хаосу больш за ўсе церпяць незалежныя СМІ.

Старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны не адмаўляе факт, што дзяржаўныя выданні фінансуюцца сваімі заснавальнікамі. У той жа час чыноўнік сцвярджае, што большасць недзяржаўных СМІ атрымліваюць грашовую падпітку з-за мяжы. Па меншай меры адно недзяржаўнае СМІ — «Белорусская газета» знаходзіцца ў «расійскіх руках». Адзіны на Беларусі незалежны выдавецкі дом «Мэджык» з вялікімі друкарскімі магчымасцямі атрымлівае свае даходы ад расійскіх друкавальных заказаў. Аднак рэгулярная замежная падтрымка немагчымая.

КНГ АБСЕ згаджаецца з уладамі ў тым, што ў рэспубліцы ёсць 145 тэле- і радыёстанцыяў. Але толькі з пункту гледжання тэхнічнага аснашчэння, бо практычна ў рэспубліцы дзейнічае адзін тэлеканал – Беларускае тэлебачанне. Рэгіянальныя і мясцовыя электронныя СМІ, 16 з якіх аб'яднаныя ва ўласную сетку, таксама карыстаюцца БТ з уласнымі ўстаўкамі. Паводле незалежнага сацыялагічнага апытання, менш за 10% аўдыторыі глядзіць БТ.

Самая папулярная радыёстанцыя – першы нацыянальны канал – ахоплівае каля 50% радыёаўдыторыі. 16% слухачоў «належыць» радыё «Бі-Эй», 12% — Маладзёжнаму каналу, 7,4% — «Радио-Рокс». Астатнія радыёстанцыі маюць менш за 2% аўдыторыі. Аднак ні адно электроннае мас-медыя «не служыць палітычным форумам для асвятлення мясцовых падзеяў». «Урадавая Дзяржтэлерадыёкампанія валодае амаль абсалютнай манаполіяй на асвятленне ўнутранай палітыкі і распаўсюджвае толькі прапрэзідэнцкі пункт гледжання» — да такой высновы прыйшла місія АБСЕ.

У рэспубліцы створаная міжнародная дагаворная, канстытуцыйная і прававая аснова для свабоды СМІ і доступу да СМІ. Але што толку ў тым, калі недзяржаўная прэса знаходзіцца пад дзяржаўным прэсам. Распаўсюджванне і падпіска кантралююцца міністэрствам сувязі; у якасці ілюстрацыі прыводзіцца «забыўлівасць» мінсувязі, якое не ўключыла ў падпісны каталог некаторыя незалежныя выданні. Папярэдняй цэнзуры няма. Але Дзяржкамдрук трымае незалежныя мас-медыя на кароткім павадку папярэджанняў: два папярэджанні на працягу года могуць пацягнуць судовае закрыццё выдання. Пакуль такіх выпадкаў за апошнія тры гады не было. Аднак летась было вынесена 76 папярэджанняў 52 перыядычным выданням. Самацэнзура, якая ўзнікла ў выніку практыкі папярэджанняў, прывяла да закрыцця газет «Имя» і «Навіны».

КНГ АБСЕ не бачыць святла ў канцы тунеля. «Ціск на незалежныя сродкі масавай інфармацыі павялічваецца, і многія рэдактары чакаюць узмацнення яшчэ больш жорсткіх абмежаванняў падчас правядзення выбарчай кампаніі 2000 года», — аптымізму ў гэтым вывадзе не бачна. ■

## Адзін пасажыр вядомы

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

Праваахоўныя органы ўстанавілі асобы ўладальніка аўтамабіля *Ford Scorpio*, які выбухнуў 15 траўня на неахоўваемай стаянцы на праспекце Машэрава ў Мінску, а таксама аднаго з дзвюх асобаў, што знаходзіліся ў машыне на момант выбуху.

Паводле звестак міністэрства ўнутраных справаў Беларусі, аўтамабіль належыць непрацуючаму мінчаніну Д., 1961 года нараджэння, а цяжкапараненым пасажыр — раней судзімы, непрацуючы мінчанін Ш., 1973 года нараджэння. Асоба загінулага мужчыны пакуль не ўстаноўленая. Мяркуецца, што ў яго ў руках у момант выбуху знаходзілася выбуховае прыстасаванне. Пры аглядзе аўтамабіля ў салоне былі таксама знойдзеныя пісталет ІЖ-70 з глушыцелем і аўтамат АКСМ з поўным магазінам патронаў.

Па факце выбуху пракуратурай горада ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле 101 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь — «наўмыснае забойства». ■



## Вучняў пакінулі без сняданку

**Кірэй МАНУЙЛАЎ**

Па ўсёй краіне ў школах да самага канца гэтага навучальнага года адмяняюць бясплатныя экспрэс-сняданкі. Дармавое харчаванне (а адзін такі сняданак каштуе ў сярэднім 88 рублёў) застаецца толькі для дзяцей з малазабяспечаных сем'яў.

Прычына банальная – у бюджэце няма грошай. Хоць адкрыта пра гэта не гавораць. Напрыклад, у аддзеле адукацыі Мінскага гарвыканкама цьмяна тлумачаць, што сняданкі скасавалі «ў сувязі з падрыхтоўкай да адкрыцця школьных летнікаў», якія пачнуць працаваць 29 траўня. Мяркую, трэба ж і там карміць дзяцей – тры разы на дзень. Вось і эканоміць цяпер. Прычым з размахам досыць простым – колькі тут ужо да канца вучобы засталося! Таму бацькі асабліва і не абураюцца. ■

## «Задзіночанне» студэнтаў вырашыла, што «час збіраць камяні»

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Незвычайную акцыю «Час збіраць камяні» распачынае 20 траўня маладзёжнае аб'яднанне «Задзіночанне беларускіх студэнтаў». Яна пройдзе ў музеі валуноў, што знаходзіцца ў сталічным мікраараёне Уручча, і заключаецца ў прыборцы гэтага самага музея пад адкрытым небам.

«Апошнім часам ля валуноў стала занадта брудна, — тлумачаць арганізатары. — Шмат бітага шкла, паперак, надпісаў фарбай». За адзін дзень ЗБСаўцы збіраюцца ўсё прыбраць і зладзіць па заканчэнні канцэрт бардаў. Да працы запрашаюцца ўсе жадаючыя. ■

## Адмовілі ў рэгістрацыі

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

Міністэрства юстыцыі адмовіла ў рэгістрацыі «Беларускаму аб'яднанню маладых палітыкаў», спаслаўшыся на шэраг парушэнняў закона «Аб грамадскіх аб'яднаннях».

Мінюст зазначыў, што некаторыя статутныя задачы і метады дзейнасці не адпавядаюць назве і мэтам аб'яднання. Што ж датычыць прадугледжанага статутам БАМПа «правядзення экспертнай ацэнкі дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў», а таксама магчымага членства непаўналетніх асобаў і абрання іх у выбарныя органы – то гэта супярэчыць закону «Аб грамадскіх аб'яднаннях».

БАМП, якое ў 1992 годзе было створанае па ініцыятыве А.Лябедзькі, П.Дабравольскага, П.Данэйкі і іншых палітычных і грамадскіх дзеячаў, цяпер можа абскардзіць рашэнне аб адмове ў рэгістрацыі на працягу месяца ў Вярхоўным судзе. ■

## Біўся галавою ля ўправы БНФ

**Вольга ГАРТНАЯ**

Каля 40 брытагаловых хлопцаў – «скінхэдаў» – напалі на двух маладафронтаўцаў пасля традыцыйнага чацвярговага паседжання МФ. На той момант ва ўправе БНФ, дзе звычайна адбываюцца паседжанні, заставалася не больш дзесятка чалавек.

Частка нападаўшых, стаўшы праз дарогу насупраць управы, распачала нецэнзурную лаянку ў адрас усіх «бэнээфаўцаў», скандзіравала: «Слава Расіі!», прапаноўвала выйсці і разабрацца, «хто гаспадар у Мінску».

Малады Фронт выйшаў на «разборку», узяўшы ў рукі тронкі ад сцягоў, з якімі ў іншыя дні ходзяць на мітынгі, а праз 10 хвілінаў на дапамогу ім да ўправы пад'ехала некалькі сябраў спартыўна-патрыятычнай арганізацыі, якая называе сябе «Край». Менавіта ў гэты момант жаданне маладзёнаў з паголенымі галовамі «разабрацца» і скончылася – ужо праз хвіліну яны разышліся. Толькі адзін з іх, пачуўшы воклік: «Жыве Беларусь!», некалькі разоў дэманстратыўна стукнуўся галавой аб сцяну. ■

## «Прынцэса цырка» зноў на волі

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

Напрыканцы мінулага тыдня дырэктар Беларускага дзяржаўнага цырка Тацяна Бандарчук, даўшы падпіску аб нявыездзе, была вызваленая з следчага ізалятара.

Нагадаем, што ў следчым ізалятары на вуліцы Валадарскага Т.Бандарчук правяла роўна месяц — пасля вынясення ёй афіцыйнага абвінавачвання ў атрыманні хабару. Як паведамляў прэс-цэнтр міністэрства ўнутраных справаў, дырэктар цырка была затрыманая з доказамі злачынства супрацоўнікамі ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці ГУУС Мінгарвыканкама. Яна нібыта атрымала хабар у памеры 4.900 долараў ад двух артыстаў Маскоўскага цырка — «за станоўчае вырашэнне пытання па заключэнні кантракта на выступленне і размяшчэнне цыркавога рэквізіту».

Сын Тацяны Бандарчук, Сяргей, таксама, дарэчы, супрацоўнік цырка, сцвярджае пасля затрымання маці, што яе «падставіла» былая сяброўка — дрэсіроўшчыца Тацяна Цімчанка. Па версіі С.Бандарчука, Т.Цімчанка не магла спакойна ўспрымаць поспехі дырэктара цырка і хацела адпомсціць ёй за тое, што не мела ад яе патуранняў падчас працы. Па непацверджанай інфармацыі, за некалькі дзён да вызвалення дырэктара цырка яе былая «сяброўка» пачала актыўна рассылаць у розныя ведамствы факсы з прызнаннем у тым, што яе прымусілі навесці паклёп.

Сярод прычынаў, чаму Т.Бандарчук вызвалілі так хутка, называюць яе сваяцтва з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным, за сынам якога замужам яе пляменніца.

Цяпер справу Бандарчук з гарадской пракуратуры перадалі ў рэспубліканскую. Чым гэта аргументуецца, невядома. Але на сённяшні дзень ёсць інфармацыя, што менавіта там Бандарчук будзе перакваліфікавана абвінавачванне. ■

# Парад группы президентов из СНГ

*Окончание. Начало на стр.1*

Стоит напомнить, что во время одного из своих немногочисленных официальных визитов за рубеж, в Душанбе, А.Лукашенко торжественно пообещал защитить Таджикистан. При этом не уточнил, каким образом.

Известно, что Армения считается единственной страной в СНГ, где у России нет проблем с размещением своих военных баз. До сих пор свое присутствие в Закавказье Беларусь обозначает названием миротворческой группы, Минской, по урегулированию проблемы Карабаха. Пожалуй нигде так сильно, как в Армении, не проявляются чувства, связанные с желанием присоединиться к другому, российско-белорусскому союзу. Однако некоторые его апологеты считают, что их союз должен прирастать за счет сопредельных государств. Так что, как и Белграду, Еревану пока не светит членство в данном союзе.

До президентского правления Беларусь по Конституции являлась государством, которое стремилось к нейтралитету. Именно на это положение ссылался Станислав Шушкевич, когда сопротивлялся подписанию Договора о коллективной безопасности. Но реаниматоры СССР уломали. Об этом сейчас многие предпочитают не вспоминать. Зато помпезными военными парадами ее руководство пытается напомнить ветеранам и иностранным дипломатам о мощи былой советской армии, что при реальном положении нынешней Беларуси выглядело трагикомично. Каким получится предстоящий в Минске парад группы президентов из СНГ — мы скоро узнаем. ■

# Папа святкуе юбілей

Расціслаў ПЯРМЯКОЎ



Учора Папа Рымскі Ян Павел II адсвяткаваў сваё 80-годдзе. З гэтай нагоды ў Ватыкан учора прыехала каля 3.000 святароў з усяго свету.

Тысячы польскіх паломнікаў прысутнічалі на плошчы Святога Пятра ў Рыме, каб па заканчэнні яе прапець на роднай мове сваёму слыннаму суайчынніку традыцыйныя «сто лят». Перад Папам таксама выступіў аркестр Лонданскай філармоніі.

Афіцыйны друкаваны орган Ватыкана – газета *Osservatore Romano* – прысвяціла Папу спецвыпуск з тысячамі віншаванняў Рымскаму пантыфіку ад кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў, вядомых дзеячаў і звычайных каталікоў свету.

Як і для ўсіх ягоных папярэднікаў, дзень нараджэння Яна Паўла II адзначаўся, у асноўным, асаблівым богаслужэннем. ■

# Америку спасет только безработица

Антон БАРАНОВ

**Несмотря на то, что, по данным министерства труда США, уровень безработицы в стране снизился до рекордно низкого за последние 30 лет уровня, количество вакансий не сокращается. При этом число увольнений выросло до самых высоких показателей за 10 лет, а между крупными корпорациями разворачиваются настоящие войны за сотрудников.**



Американцу найти сейчас работу — раз плюнуть. Объявления о найме сотрудников есть практически на всех корпоративных веб-сайтах. Ими пестрят страницы газет, дошло уже до того, что подобные объявления стали появляться на радио и телевидении, где они размещаются на правах дорогостоящей рекламы.

Зачастую компаниям не помогают даже такие меры. Агентства по найму, которые не могут найти необходимые кадры даже для себя, вынуждены «отлавливать» нужных специалистов в самых неожиданных местах — вплоть до атлетических залов и бань. Но и это еще не гарантирует результата.

В итоге крупные корпорации разворачивают настоящие войны за необходимых специалистов, переманивая персонал других фирм всеми доступными средствами, что приводит к небывалому росту заработной платы (к тому же во многих фирмах сотрудникам платят премию за «привод» новых специалистов). В опубликованном недавно докладе Федеральной резервной системы «О текущей экономической ситуации» особо подчеркивается, что для привлечения необходимого персонала фирмы в последнее время существенно увеличили корпоративные социальные льготы. В результате растет потребление, стимулируя не только производство, но и рост потребительских цен, а значит, и инфляционные процессы.

Из-за межкорпоративных кадровых войн количество увольнений в США, по данным американского министерства труда, в апреле достигло рекордной за последние 10 лет отметки. При этом крупно страдают страховые компании, поскольку многие граждане США застрахованы на случай увольнения.

В докладе ФРС отмечается, что острый дефицит рабочей силы наносит вред не только компаниям, затраты которых растут, но и всей экономике США. Чтобы ослабить инфляционные процессы, ФРС в очередной раз увеличила процентную ставку. 16 мая состоялось очередное совещание руководства ФРС, на котором было принято решение о повышении ставки еще на 0,5%.

По мнению американских экспертов, для многих компаний, набравших кредиты, это чревато «очень тяжелыми последствиями», поскольку тогда их доходы еще больше снизятся (а у многих превратятся в убытки), и денег для привлечения недостающих специалистов станет катастрофически не хватать. Короче говоря, у Штатов в экономике очень большие проблемы. Нам бы такие. ■

# Гаага чакае тлумачэнняў ад Расіі

Міхась КАРПОВІЧ

Вайсковы трыбунал ААН у Гаазе патрабуе ад Расіі тлумачэнняў, чаму адзін з галоўных падазроных ва ўчыненні вайсковых злачынстваў у Косаве міністр абароны Югаславіі Драгалюб Айданіч атрымаў магчымасць наведаць Маскву і чаму падчас гэтага візіту ён не быў арыштаваны. Пра гэта заявіў афіцыйны прадстаўнік трыбунала Джым Лендэйл.

Прэзідэнт трыбунала выказаў вялікую заклапочанасць гэтым візітам, што адбыўся напрыканцы мінулага тыдня. Ён нават накіраваў ліст расійскаму амбасадару ў Нідэрландах, у якім патрабуе даць тлумачэнні, чаму сталы член Савета Бяспекі ААН – Расія – не выканала патрабаванняў трыбунала. У сваю чаргу Д.Лендэйл падкрэсліў, што паведамленні пра тое, што Расія нібыта не ведала пра існаванне ордэра на арышт Д.Айданіча, не адпавядаюць рэчаіснасці, бо копіі прысуду і ордэра на арышт былі накіраваныя ўсім краінам-членам Савета Бяспекі ААН.

Міжнародны трыбунал ААН па былой Югаславіі выпісаў ордэр на арышт Д.Айданіча, а таксама прэзідэнта СРЮ Слабадана Мілошавіча і трох іншых высокапастаўленых асобаў з сербскага кіраўніцтва ў траўні 1999 года. Ім прад'яўленыя абвінавачванні ва ўчыненні злачынстваў супраць чалавецтва ў Косаве. Пракуроры ААН заяўляюць, што Д.Айданіч стаяў на чале югаслаўскай арміі, у той час, калі Югаславія праводзіла жорсткія этнічныя чысткі ў аўтаномным краі Косава.

Да крытыкі ў бок Расіі далучыліся і ЗША. Прадстаўнік Дзяржддэпартамента ЗША Рычард Баўчар заявіў, што Расія парушыла свае абавязацельства арыштаваць югаслаўскага міністра абароны, і Вашынгтон патрабуе неадкладных тлумачэнняў. Аднак афіцыйнага адказу расійскага кіраўніцтва дагэтуль няма. ■

# Рэферэндумнае дышла па-ўкраінску

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Цяпер ва Украіне самае моднае слова – «імплементацыя», працэдура ўнясення зменаў у Канстытуцыю згодна з вынікамі рэферэндуму, што прайшоў 16 красавіка. На ім украінцы пераважнай большасцю падтрымалі ідэі дадатковых магчымасцяў роспуску Вярхоўнай Рады прэзідэнтам, стварэння двухпалатнага парламента, абмежавання дэпутацкай недатыкальнасці, скарачэння дэпутацкага корпуса. Як і чакалася, працэс імплементацыі спарадзіў новае супрацьстаянне ВР і Леаніда Кучмы.**

Ужо праз тыдзень пасля правядзення рэферэндуму Л.Кучма даслаў дэпутатам свой прэзідэнцкі імплементацыйны законапраект. Кіраўнік украінскай дзяржавы, паўтараючы змест бюлетэняў на плебісцыце, зусім не мудрагеліста прапануе ўхваліць наступныя змены ў адпаведных тэкстах Канстытуцыі: заменіць колькасць парламентарыяў з 450 на 300; прыбраць параграф пра тое, што «народныя дэпутаты не могуць быць без згоды ВР Украіны прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці, затрыманыя і арыштаваныя»; дадаць, што ў выпадках нязднольнасці ВР на працягу месяца стварыць стала дзеючую парламенцкую большасць і на працягу 3 месяцаў зацвердзіць бюджэт прэзідэнт мае права распусціць парламент.

У спецыяльным звароце да дэпутатаў Л.Кучма прасіць ухваліць і заканадаўча афарміць гэтыя змены да 2001 года. Калі ж дэпутаты не ўкладуцца ў дадзены тэрмін, украінскі прэзідэнт пагражае ўжыць адэкватныя захады «для забеспячэння рэалізацыі рашэнняў, прынятых на ўсеўкраінскім рэферэндуме». Гэта можа быць роспуск Вярхоўнай Рады, калі тая за 30 дзён не здолее правесці аніводнага пленарнага паседжання. А здзейсніць гэта можна, калі шматкалькасныя пракучмаўскія фракцыі ў парламенце адмовяцца ад працы.

Аднак дэпутаты ўдарна выконваць прэзідэнцкі законапраект, здаецца, не збіраюцца. Наадварот. Яны не адмаўляюцца напрамую ажыццяўляць народнае волевыяўленне, але вось інтэрпрэтуюць яго інакш, чымсьці сам Л.Кучма. З'явіўся альтэрнатыўны парламенцкі законапраект на канстытуцыйных змяненнях. Сутнаснае адрозненне парламенцкага сцэнарыя ад кучмаўскага ў тым, што дэпутаты выступаюць за рэалізацыю вынікаў рэферэндуму ў поўным аб'ёме. Бо народ галасаваў не за 3, а за 4 канстытуцыйныя папраўкі. Справа ў тым, што ўкраінскі прэзідэнт лічыць пытанне аб двухпалатным парламенце толькі кансультацыйным. Але парламентарыі-апазіцыянеры акцэнтуюць увагу на тым, што такім чынам украінскі прэзідэнт ігнаруе волю народа, і робіць асноўную стаўку менавіта на двухпалатнасць — рэальны сродак абмежавання прэзідэнцкіх паўнамоцтваў.

Паводле такога варыянта імплементацыі будзе створаны Сенат колькасцю ў 150 месцаў, якія ўжо не разгоніш — паколькі наконт верхняй палаты падчас плебісцыту насельніцтва нічога не казала. І наконт большасці ў ім таксама. Да таго мяркуецца, што парламенту нададуць права прызначаць прэм'ер-міністра і персанальны склад урада. Ёсць і яшчэ шэраг пунктаў, што могуць пе-ратварыць Украіну, па сутнасці, амаль у парламенцкую рэспубліку.

Цяпер абодва законапраекты разглядае Канстытуцыйны Суд. Але гэта збольшага працэдура фармальная – і прэзідэнцкі законапраект, і дэпутацкі такую экспертызу мусяць прайсці без праблемаў. Уласна імплементацыя распачнецца, відаць, на восеньскай сесіі Вярхоўнай Рады. Хоць многае будзе залежаць ад расстаноўкі сілаў, што сфармуецца ў выніку латэнтнай барацьбы ўлетку.

Ад таго, на якую рэспубліку ў перспектыве – абсалютную прэзідэнцкую альбо парламенцкую – паставяць фінансава-прамысловыя алігархічныя колы, і ад таго, якой – прапрэзідэнцкай альбо наадварот – будзе парламенцкая большасць. Пакуль, здаецца, ёсць тэндэнцыі да другога. Напрыклад, калі ВР адпраўляла згаданыя законапраекты ў КС, то пад прэзідэнцкім падпісаліся 174 дэпутаты, а пад альтэрнатыўным яму – 304 (г.зн. створаную зімой сітуацыйную большасць фактычна пакінулі некалькі дзесяткаў парламентарыяў). А, між іншым, для ўдалага правядзення імплементацыі трэба якраз 300 галасоў. Прычым перавага ВР перад Л.Кучмам дадзеная загадзя: выключна яна мае права аналізаваць, ухваляць і прымаць змены ў Канстытуцыю. Хоць пэўны досвед адмысловай «працы» з парламентам украінскі прэзідэнт мае.

Наогул жа розных прыхаваных да пары палітычных козыраў абодва бакі дастануць яшчэ, відаць, нямала. Карацей, украінцам сумаваць не давядзецца. Наступным падзейным і заключным этапам супрацьстаяння вакол канстытуцыйнай рэформы стане стварэнне парламенцкай камісіі, якая будзе займацца працэдурай імплементацыі і вызначэннем ейных фармат-ных паўнамоцтваў. Не выключана нават, што Л.Кучму і Вярхоўнай Радзе ўдасца зляпіць адзіны кампрамісны тэкст зменаў Канстытуцыі. ■

# Ракетна-ядзерныя «жартачкі»

Ірына СТАРЦАВА

Да аднаго года пазбаўлення волі былі асуджаныя Калужскім раённым судом два «аматары жартаў», якія праз Інтэрнет палохалі Еўропу ракетна-ядзернай зброяй.

Два вучні тэхнікума запусцілі ў «сусветную павуціну» паведамленне пра тое, што даведзеныя да адчаю цяжкімі ўмовамі жыцця афіцэры Казельскай дывізіі ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння, калі ў бліжэйшы час іхняе становішча не зменіцца, маюць намер без загаду міністра абароны знішчыць некалькі еўрапейскіх гарадоў.

Паведамленне выклікала вялікую занепакоенасць за межамі Расіі. Запыты з мэтай удакладнення сітуацыі зрабілі дзяржаўная паліцыя Аўстрыі і амерыканскае ФБР.

Маскоўскія і калужскія супрацоўнікі ФСБ у хуткім часе вылічылі жартаўнікоў і ўзбудзілі супраць іх крымінальную справу – за «заведама ілжывае паведамленне пра падрыхтоўку дзеянняў, што ствараюць пагрозу гібелі людзей, нанясення буйной маёмаснай шкоды і наступлення грамадска небяспечных наступстваў». Прысуд маладзёнам – адзін год у калоніі агульнага рэжыму. Але адзін з іх у калонію пакуль не патрапіць – яму менш за 18 гадоў, і таму прысуд – умоўны. ■

# Дзе масла для СССР?

Міхась КАРПОВІЧ

Еўрасаюз збіраецца расследаваць гісторыю знікнення сметанковага масла, якое прызначалася для патрэбаў былога СССР. Пра гэта журналістам паведаміў камісар ЕС па бюджэце Майкл Шрэер. Па ягоных словах, адзін з першых буйных праектаў Еўрапейскай камісіі складаўся з прадастаўлення СССР у 1991-1993 гадах у якасці гуманітарнай дапамогі некалькіх дзесяткаў тысяч тон высакаякаснага сметанковага масла на агульную суму ў 6 мільёнаў долараў. Выканаўцам па гэтым праекце выступала французская кампанія *Flechard*. Тым не менш, ніводны пачак гуманітарнага масла да СССР так і не дайшоў – уся партыя была прададзеная ў Польшчы па камерцыйнай цане. «Дагэтуль кіраўніцтва ЕС не звярталася ў пракуратуру, бо не мела доказаў», – зазначыў М.Шрэер. Але цяпер сітуацыя змянілася. Шрэер паведаміў пра тое, што да продажу масла маюць дачыненне «былыя камісары ЕС». ■

# Ці будзе кінашэдэўр?

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Чуткі пра незадаволенасць аўтара кнігі «Жнівень 44-га» Уладзіміра Багамолава тым, як рэжысёр Міхаіл Пташук інтэрпрэтуе ў кіно ягоны раман, днямі пацвердзіліся. Расійскі пісьменнік нават даслаў на імя міністра культуры Аляксандра Сасноўскага ліст, якім даводзіць, што хоча прыбраць сваё імя з тытраў будучага фільма.**

Намеснік міністра культуры Юрый Цвяткоў, які курыруе – апошнім часам гаротныя – справы айчыннага кіно, гаворыць, што гэта тым не менш зусім не значыць, што дадзены праект скасоўваецца наогул і што «Момант ісціны» застанецца дзе-небудзь у пыле паліцаў. Але, відаць, галоўнае, чым ён увойдзе ў гісторыю беларускага кіно, дык гэта ўжо зараз амаль легендарнай скандальнасцю і беспрэцэдэнтнай дарагоўляй. Гавораць, што агульны каштарыс фільма, які, па прызнаннях многіх прыналежных да яго стварэння асобаў, проста ўсіх «дастаў», сягае 5 млн. долараў. Хоць той жа Цвяткоў даводзіць, што «максімум 2-2,5 мільёнаў».

Як будзе выглядаць «Момант ісціны», што тычыцца мастацкага ўзроўню, да прэм'еры, можна толькі здагадвацца. Але ўжо цяпер ёсць па чым гэта прыкладна рабіць. Па-першае, рэкламны ролік «Моманту ісціны» з 80 % адзнятага натурнага матэрыялу вазілі на нейкі папярэдні інфармацыйны прагляд у Каны, дзе ён быў ацэнены як пасрэдны. Гэта пры тым, што ўстаноўка мінкульта была ледзьве не на «Оскар» і «Пальмавую галіну». Па-другое, ужо некалькі месяцаў, як згарнуў фінансаванне гэтага праекта расійскі бок. Значыць, не разлічваюць, што фільм хоць бы акупіцца, і павялічваць страты не жадаюць, бо на кінашэдэўр, як планавалася, «Момант ісціны» і блізка не цягне. Адмовіліся ад фільма і прадзюсеры. Па-трэцяе, сцэнарыст фільма Багамолаў, пабачыўшы працу Пташука, назваў яе «правальнай». Маўляў, праваленыя ўсе вузлавыя і ключавыя эпізоды, а сэнсавых памылак і нестыковак у экранізацыі ён налічыў каля 60. Таму Уладзімір Багамолаў і прыбірае ўласнае імя з карціны, прычым рашэнне гэтае канчатковае. Зусім нельга выключаць нават судовага разбіральніцтва паміж аўтарам сцэнарыя фільма і рэжысёрам, а, як вынік, і міністэрствам культуры. Як нельга выключаць, што сутнасць канфлікту можа палягаць не толькі ў чыста мастацкіх разыходжаннях, а ў грошах. Даводзілася чуць, што сума, выплачаная на сёння Багамолаву, была толькі авансам, а наконт астатняга паміж бакамі і ўзніклі праблемы. Аднак Цвяткоў заўпэўнівае, што Багамолаву прадугледжаны ганарар – 30 долараў – выплацілі ўвесь і спраўна.



Фота А.ДЗМІТРЫЕВА

Рэжысёр МІХАІЛ ПТАШУК камандуе вайсковымі падраздзяленнямі



Фота А.ДЗМІТРЫЕВА

Акцёр Аляксандр БАЛУЕЎ у ролі капітана Мішчанкі

Зараз Міхаіл Пташук, намагаючыся ўсё ж зрабіць з адзнятага «цукерку», займаецца ў Маскве, бо ў нас няма адмысловай долбі-сістэмы, ці то мантажом, ці то перамантажом фільма. Калі ўдала гэта не атрымаецца, то цалкам верагодна, што ў беларускім міністэрстве культуры з'явіцца новае кіраўніцтва. А пакуль жа дзеючае ўпарта дзеліцца ўпэўненасцю, што «Момант ісціны», прэм'еру якога мяркуецца правесці ў Дзень вызвалення Беларусі і ў Мінску, і ў Маскве, стане фільмам якасным, цікавым, а да таго абсалютна нацыянальным. Хоць беларускага ў ім насамрэч – жменька. Дарэчы, аргументацыя таго, чаму ў мінкульце вырашылі здымаць менавіта «Момант ісціны» ў якасці фільма быццам бы безумоўна нацыянальнага, наогул дзіўная. Па-першае, маўляў, хопіць дробнатэм'я – даеш звышкінапраект, каб дух заняло. Па-другое, ажыццяўленне, напрыклад, пташукоўскай ідэі здымаць «Вітаўта» мы б самі не пацягнулі, а палякі і літоўцы, да якіх звярталіся па супрацоўніцтва, адмовіліся. А вось Расія ў маштабным беларускім праекце ўдзельнічаць пагадзілася, прычым з прыблізна парытэтным размеркаваннем выдаткаў. Вось такія падыходы, у выніку якіх 3 ліпеня беларусы атрымаюць нешта сярэдняе паміж баевікам і псіхалагічнай драмай, і наўрад ці ў каго з тэлекрытыкаў альбо гледачоў павернецца язык сказаць, што гэта па-сапраўднаму нацыянальнае кіно.

А тым часам у 2000 годзе на «Беларусьфільме» запускаюцца 4 карціны (у 98-ым і 99-ым з-за «Моманту ісціны», які з'ядаў усе грошы, з уласна беларусьфільмаўскага выйшла толькі некалькі кароткаметражак). Блокбасцераў не чакаецца, нацыянальнага па змесце і форме фільма таксама. Натуральна, бо ёсць жа «Момант ісціны». ■

ПУБЛІЧНАЯ ДУМКА

# Электарат расчараваўся ў сваім абранніку і пачынае скасоўваць «шлюб»

Нішто не вечнае пад Месяцам, асабліва ж рэйтынгі народнага даверу. Падобна таму, як маладзік няўмольна ператвараецца ў ветах, так саслабляюцца і знікаюць у нашай непрагляднай эканамічнай цемры спадзяванні, давер і прыхільнасць электарата, які прывёў А.Лукашэнку на пасаду прэзідэнта. Звычныя спасылкі ў прамовах А.Лукашэнкі на галасы выбаршчыкаў 1994 года як на нязменны падмурак ягонай улады сёння ўжо не адпавядаюць рэчаіснасці. Абяцаныя змены да лепшага не адбыліся, наадварот, сацыяльнае становішча людзей у параўнанні з 1994 годам моцна пагоршылася, што і дае падставы думаць пра іншага абранніка. Пра гэта сведчаць вынікі праведзенага напрыканцы красавіка апытання каля 1.500 рэспандэнтаў па рэспубліцы і 250 па сталіцы.




| | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| Пераканаfor праціўнікі | 30,3% | 49,5% |
| Пераканаfor прыхільнікі | 15,5% | 6,5% |

Дадзеныя гэтага апытання даюць ясна акрэслены партрэт сённяшніх настрояў электарата ў стаўленні да А.Лукашэнкі. Першы малюнак дэманструе, як гэта залежыць ад узросту.

Гэтыя агульныя лічбы раскладаюцца па ўзроставых групах з паказальнай поўнай стратай даверу да А.Лукашэнкі сярод моладзі і найбольш працаздольных слаёў насельніцтва.

Чатыры нулі ў сталіцы і нязначныя лічбы падтрымкі ў цэлым па рэспубліцы па найбольш колькасных і перспектыўных групах падобныя на сумныя ўдары званоў.

Мала чым розняцца ад гэтых паказчыкаў вынікі апытання рэспандэнтаў па іх сацыяльным статусе. Адносіны да А.Лукашэнкі як да асобы, адказнай за прыняты і здзейснены эканамічны курс, сведчаць, што шырокая думка ўжо асэнсавала вытокі сацыяльных бедстваў.

У самым галоўным – магчымасці мець працу, зарабляць, утрымоўваць сям'ю, задавальняць сацыяльныя патрэбы – палітыка А.Лукашэнкі і ўрада не падмацоўваецца даверам і таму апрыорна асуджаная на правал, нават без уліку таго, што наш «рыначны сацыялізм» не стасуецца з «рынкам» Расіі. Звяртае на сябе ўвагу мізэрная колькасць прыхільнікаў А.Лукашэнкі сярод навучэнцаў, гэта значыць сярод тых, хто прыйдзе ў актыўнае грамадскае і эканамічнае жыццё заўтра.



Пераканаfor праціўнікі

| | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| 16-19 | 37,9% | 67,6% |
| 20-24 | 33,5% | 44,8% |
| 25-29 | 39,8% | 66,0% |
| 30-39 | 38,4% | 57,8% |
| 40-49 | 32,4% | 47,7% |
| 50-59 | 26,2% | 42,7% |
| 60 і болей | 17,0% | 35,0% |

Пераканаfor прыхільнікі

| | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| 16-19 | 8,5% | 0,0% |
| 20-24 | 5,2% | 0,0% |
| 25-29 | 9,3% | 0,0% |
| 30-39 | 8,4% | 0,0% |
| 40-49 | 13,3% | 7,8% |
| 50-59 | 19,7% | 15,3% |
| 60 і болей | 29,1% | 15,2% |



Пераканаfor праціўнікі

| | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| Працаўнікі недзяржаўнага сектара | 51,9% | 71,9% |
| Працаўнікі дзяржаўнага сектара | 31,0% | 45,7% |
| Навучэнцы | 37,0% | 55,3% |

Пераканаfor прыхільнікі

| | Беларусь | Мінск |
|---|---|---|
| Працаўнікі недзяржаўнага сектара | 31,0% | 0,0% |
| Працаўнікі дзяржаўнага сектара | 13,2% | 5,8% |
| Навучэнцы | 8,2% | 0,0% |

Увогуле ў залежнасці ад адукацыі найвялікшы працэнт прыхільнікаў А.Лукашэнкі выяўляе электарат з пачатковай адукацыяй (38,1) і найменшы (3,4%) — асобы з вышэйшай ці незакончанай вышэйшай адукацыяй. Праціўнікаў А.Лукашэнкі з вышэйшай адукацыяй у 11,5 разоў болей, чым яго прыхільнікаў з такім жа дыпломам. У Мінску апытанне сярод добра адукаваных слаёў не выявіла прыхільнікаў першага прэзідэнта наогул, але паказала, што перакананыя яго праціўнікі складаюць 47,5%.

Варта дадаць, што па ўмовах апытання перакананымі прыхільнікамі А.Лукашэнкі лічацца тыя, хто адначасна гатовы прагаласаваць за яго ізноў на выбарах прэзідэнта РБ і адначасна як за прэзідэнта «саюзнай дзяржавы». Адпаведна перакананыя праціўнікі – гэта асобы, якія трымаюцца адваротнага погляду па гэтых пытаннях і не аддадуць свой голас за А.Лукашэнку ні пры якіх умовах.

Палова рэспандэнтаў, якая пры адказе на кожнае пытанне вагаецца ці асцярожна выказвае сапраўднае меркаванне, лічачы, што гэта ў сённяшніх варунках небяспечна, ці яшчэ спадзяецца на нейкі эканамічны цуд. Тэндэнцыя памяншэння гэтай часткі электарата нагэтулькі відавочная, а магчымасць цуду нагэтулькі мізэрная, што паслабленне прыхільнікаў і павелічэнне колькасці праціўнікаў палітыкі А.Лукашэнкі сведчыць, што «шлюб», аформлены ў 1994 годзе, страціў прывабнасць і можа быць скасаваны юрыдычна на выбарах. Магчыма, гэта галоўная прычына, па якой яны не праводзяцца. ■

РАКУРС

## Музея чарнобыльскай катастрофы начальства не жадае

Марат ГАРАВЫ

**У розны час у міністэрства культуры Беларусі паступалі прапановы аб стварэнні музея чарнобыльскай катастрофы, аднак у міністэрстве да такой ідэі ставяцца адмоўна. Пра гэта паведаміў начальнік аддзела музеяў і выставак мінкультуры Сяргей Маслоўскі на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Міжнароднаму дню музеяў, які адзначаецца 18 траўня.**

Паводле ягоных словаў, упершыню ідэя стварэння музея чарнобыльскай катастрофы ўзнікла праз год пасля трагедыі. Аўтар аднаго з трох прадстаўленых праектаў прапаноўваў наладзіць музейную экспазіцыю за калючым дротам у 30-кіламетровай зоне. С.Маслоўскі назваў гэта «сапраўднай дзікасцю». Не былі зацверджаныя і два іншыя праекты – у сілу недастатковай распрацоўкі канцэпцыі і дачаснасці самой ідэі. На думку Маслоўскага, «ідэя музеефікацыі катастрофы ў супастаўленні з глыбінёй чалавечай і нацыянальнай трагедыі, якая яшчэ не адно дзесяцігоддзе будзе нагадваць пра сябе», выглядае «абсурднай».

Ён адмоўна паставіўся і да ініцыятывы збору помнікаў этнаграфіі забруджаных тэрыторыяў, з якой выступіў Музей старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. На думку спецыяліста, сабраныя музеем этнаграфічныя матэрыялы выпраменьваюць радыяцыю і не ўяўляюць вялікай цікавасці, паколькі практычна не адрозніваюцца ад падобных помнікаў культуры з іншых рэгіёнаў краіны. «Я лічу, што заявы аб страце значнай часткі беларускай культурнай спадчыны на тэрыторыі пацярпелых ад Чарнобыля рэгіёнаў могуць рабіць толькі неінфармаваныя людзі», – заявіў С.Маслоўскі. ■



НАЗІРАЛЬНІК

## Арол і пралескі

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Калі бачыш, як на афіцыйных сумесных мерапрыемствах суседнічаюць дзяржсцягі Беларусі і Расіі, становіцца смешна. Таму што візантыйскі арол на расійскім сцягу як сімвал пераемнасці традыцыяў Усходняй рымскай імперыі зусім не пасуе да збожжава-агароднага сымбаля прэзідэнцкай Беларусі. Бо апошні гэтую традыцыю абвяргае ці імкнецца абвергнуць.**

Але зразумела, што геральдычныя тонкасці не турбавалі Лукашэнку, калі ён прапаноўваў новую-старую сымболіку на рэферэндум. Ён перасследваў мэты цалкам палітычныя і прагматычныя. Прычым, не столькі перацягнуць на свой бок большасць электарата. Гэтая большасць была яго, законная. Колькі пазбавіць меншасць (апазіцыю) магчымасці скарыстоўваць дзяржсімволіку для абароны ўласнай дзяржавы, яе незалежнасці. Спачатку гэта атрымалася на ўсе сто. Але сёння афіцыйная сімволіка мае амаль выключна пратакольнае значэнне. Апальная ж, бел-чырвона-белая, аб'ядноўвае амаль усю, а не толькі нацыянальна свядомую апазіцыю. І чым далей, тым болей.

Тое ж самае з беларускай мовай. Многія, як вядома, супраціўіліся яе пашырэнню як адзінай дзяржаўнай мовы, таму што яе вывучэнне патрабавала намаганняў, а дзяржава амаль не клапацілася пра тое, каб гэты працэс стаў незваротным. Але праз пяць гадоў пасля рэферэндуму беларуская мова пашырае кола прыхільнікаў і сферы прымянення. Таму што яна стала мовай супраціву. Зноў жа амаль для ўсіх, нягледзячы на ідэйныя ці іншыя спрэчкі.

Ну і трэцяе пытанне было аб падтрымцы інтэграцыі ў тым выглядзе, як яе разумеў Лукашэнка. Зразумела, што ён і тады ў гэтай справе не надта глыбока разумеў. Але як лозунг моманту інтэграцыя была эфектыўнай. Спачатку. Бо чым далей, тым болей ідэя поўнага яднання станавілася ўсё менш папулярнай. На гэта паўплываў і імідж сучаснай Расіі, і вайна ў Чачні ды многае іншае. Пакуль Лукашэнка за кошт маладой энергіі разпораз абыгрываў Ельцына, усё ішло добра. Але ўжо для Пуціна ён ніякай пагрозы не ўяўляе. Таму Лукашэнку застаецца або мацаваць родную дзяржаву, або здаць уласныя паўнамоцтвы і папрасіцца губернатарам у Табольск. Ды як гэта зробіш?

Падсумоўваючы, можна сказаць, што перамога Лукашэнкі на першым рэферэндуме была дастаткова поўнай, каб стварыць папярэднія ўмовы для яго поўнай паразы. Візантыйская двухгаловая птушка ніколі не надзене на сябе збожжавы вянок. ■

# Любоў да вандалізму

Павел АБРАМОВІЧ

### Гісторыя стварэння

Калі паўтара стагоддзя назад мастак Напалеон Орда прыязджаў у Бярозу-Картузскую, ён замаляваў тагачасны выгляд знакамітага кляштара. Ад малюнка павявае пэўнай загадкавасцю, уяўляюцца нейкія старадаўнія таямніцы, якія ахоўвае высокі мур, загадкі мноства манаскіх жыццяў, прыналежных гэтаму кляштару. Ляжыць на малюнку і адбітак суму, бо візіт Орды ў Бярозу прыйшоўся не на лепшыя часы прытулку беларускіх картузіянцаў.



Кляштар картузіянцаў у Бярозе. Малюнак Н.Орды

Будаўніцтва першага і адзінага ў Вялікім Княстве Літоўскім кляштара гэтага ордэна пачалося ў 1650 годзе. Ідэю пасяліць іх у Княстве ажыццявіў прадстаўнік знакамітага беларускага роду Сапегаў, падканцлер літоўскі Казімір Леў, чацвёрты сын славутага аўтара Статута 1588 г. Ён быў выдатны дыпламат, заснавальнік кафедры права пры Віленскім універсітэце, а за свае шматлікія фундушы на карысць касцёлаў і уніяцкіх цэркваў атрымаў ад Папы Рымскага тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі, дарэчы, як крыху раней Радзівілы.

Запрошаная Казімірам Сапегам дэпутацыя ордэна вызначыла пад будаўніцтва кляштара мясціну, дзе, па паданні, некалі назіралі цудоўнае з'яўленне драўлянага крыжа з выявай распятага Хрыста. Гэта быў маляўнічы куток каля паселішча Бяроза (зараз раённы цэнтр Брэсцкай вобласці), якое належала падканцлеру.

У 1666 годзе тут быў збудаваны і асвячоны касцёл кляштара. Пабачыць гэты гмах ва ўсёй яго велічы і прыгажосці Сапегу не давялося: таго ж года, 6 чэрвеня, ён сканаў і быў пахаваны ў паўднёвай крыпце храма. Будаўніцтва кляштарнага ансамбля было скончанае толькі праз 23 гады, аздабленне інтэр'ераў касцёла працягвалася аж да сярэдзіны XVIII ст.

Абнесены мураванай сцяной з невялічкімі вежачкамі і ровам, кляштар картузаў уяўляў сабой горад у мініяцюры. На яго тэрыторыі былі пабудаваныя келлі, аранжарэя, бровар, саладоўня, студня з помпаю, пральня, конны млын, бандарня, майстэрня па вырабе дахоўкі, а таксама палац Сапегаў, дзе падчас гасцявання ў манахаў жыла княжая сям'я, і спецыяльная «мясная» кухня побач для саноўных гасцей. Кляштар меў адборны кнігазбор (па стане на 1830 год, ён налічваў 2.314 тамоў), архіў, хімічную лабараторыю, парафіяльную школу, шпіталь-багадзельню. З поўдня і ўсходу кляштар быў аточаны садам з рыбнымі сажалкамі.

Насупраць палаца Сапегаў у пятнаццаці асобных дамках (эрэмах) жылі манахі-самотнікі. Кожны эрэм, абнесены высокай сцяною, меў тры пакоі: малельню, спальню і памяшканне для працы, дзе законнік перапісваў і перапляталў кнігі, сталярнічаў. Побач з эрэмам знаходзіўся невялікі палісад і студня. Эрэмнік гатаваў сабе ежу сам, атрымліваючы прадукты ў эрэм праз адтуліну з двума паваротамі, каб не бачыць нават рук таго, хто іх падаваў. На маленні ў касцёл законнікі траплялі па ізаляваных галерэях. Нават у храме іх ніхто не мог бачыць, бо прызначаныя для манахаў-самотнікаў бакавыя нефы былі адзеленыя мураванымі сценамі. Толькі ў святочныя дні законнікам дазвалялася выходзіць у кляштарны сад, размаўляць з іншымі манахамі. Прысутнасць у кляштары эрэмнікаў надавала яму статус асаблівай духоўнасці.

### Гісторыя знішчэння

Падчас Паўночнай вайны (1700–1721), нашэсця Напалеона ў 1812 годзе кляштар неаднаразова рабавалі. Але насуперак рабаўнікам і бедствам ваеннага ліхалецця жыццё кляштара працягвалася.

Пасля далучэння Беларусі да праваслаўнай Расіі картузіянцы дачакаліся рэпрэсіяў. У 1823 годзе было сфальсіфікаванае абвінавачванне, быццам кляштар аказваў матэрыяльную дапамогу паўстанцам Тадэвуша Касцюшкі ў памеры аднаго мільёна злотых. Аднак на судзе даказаць гэта не здолелі. Юрыдычнай падставай для закрыцця кляштара паслужыў удзел бярозаўскіх картузіянцаў у паўстанні 1830–1831 гадоў. Манахаў раскідалі па іншых кляштарах, дзе яны знаходзіліся пад наглядам уладаў. Абязлюджаны кляштар нібыта амярцвеў.

Пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гадоў расійскі ўрад прыняў рашэнне зруйнаваць касцёл і частку кляштарных пабудоваў, а цэглу выкарыстаць для будаўніцтва казармаў 151-га Пяцігорскага пяхотнага палка. Медзяны дах касцёла скарысталі пры пабудове Аляксандра-Неўскай царквы ў Гродне.



Былая ўязная брама Бярозаўскага кляштара

У гады акупацыі пад сценамі колішняга кляштара гітлераўцы расстралялі звыш 4,5 тысячы савецкіх грамадзянаў. Пасля вайны на яго тэрыторыі доўгі час месцілася аўтакалона вайсковай часткі міністэрства абароны СССР. Яшчэ напрыканцы 80-х гадоў у сценах кляштара гадавалі свіней.

Ад колішняга велічнага архітэктурнага ансамбля кляштара картузаў у Бярозе засталіся рэшткі галоўнай уязной брамы, вежы-званіцы, палаца, шпіталя і часткі сцяны з адной вуглавой вежаю. На фотаздымках 1970-х гадоў шматлікія ацалелыя пабудовы стаяць яшчэ пад дахамі. Сёння дахаў ужо няма...

Руіны кляштара пакідаюць цяжкае ўражанне. Жахліва думаць пра тое, што сталася з прахам законнікаў, 15 нябожчыкаў з роду Сапегаў і 42 іншых свецкіх асобаў, труны якіх стаялі ў крыпце пад касцёлам. Балюча глядзець на размаляваныя нашымі вандаламі сцены...



Рэшткі кляштарнай вежы-званіцы

Фота Г.САРАЙКІНАЙ

У Камітэце па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры міністэрстве культуры стан кляштара картузаў ацэньваюць, як катастрафічны, а ў Бярозаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі няма ніводнай кнігі з яго збору (большую частку бібліятэкі вывезлі ў Маскву і Пецярбург). Што агульнага паміж гэтымі дзвюма звесткамі? Гэта вагі. У нас культурная спадчына знішчаецца, там за кошт нашай прыбывае. Але наша дзяржава не мае жадання адраджаць знішчаныя ці зруйнаваныя помнікі. У нас і сёння працягваюцца вандальскія оргіі. Бяроза – адна з такіх мясцінаў, хоць тут некалі паказаўся людзям цудатворны крыж. ■

**ДАВЕДКА**

Каталіцкі манаскі ордэн картузіянцаў (картэзіянцаў) быў заснаваны ў 1084 годзе. Яго першы манастыр знаходзіўся паблізу Грэнобля ў мясцовасці Шартроз (лац. *Cartasia* – адсюль назва ордэна). Адной з крыніцаў багацця ордэна была вытворчасць і продаж лікёра «шартроз», рэцэптура якога захоўвалася ў вялікай тайне.

